# ПРАГРАМА
## ТЭЛЕБАЧАННЯ

### ПОНЕДЕЛЬНИК 8 ДЕКАБРЯ

**БТ**

**07.30** Утренний коктейль.
**07.45, 17.55** "Музыкальная обойма".
**07.50** "Фантазии на темы Фаберже".
**08.00** Резонанс.
**08.50** "Телебарометр".
**09.00** Здоровье.
**09.30, 17.45** Экономикст.
**09.40** "Встречи в Троицком".
**10.05** М/ф.
**10.35** Телевизионный Дом кино.
**11.00** Темная комната.
**11.30, 18.20** "Долгий путь в лабиринте". Х/ф. 1-я с.
**12.40** Зеркало.
**13.00, 15.00, 18.00, 23.45** Новости.
**15.15** Видеокурс немецкого языка.
**15.35** М/ф.
**15.50** ТВ — школе.
**16.15** На добрый лад.
**16.30** Гости в дом.
**17.00** Музыкальный антракт.
**17.10** Параграф.
**19.30** Тема дня.
**19.45** Д/ф "Земля, землянки, земляки".
**20.10** Криминальная хроника.
**20.30** Музыкальный антракт.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.50** Х/ф "Цыган".
**23.15** Дзюдо.

**ОРТ**

**08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 00.30** Новости.
**08.15** "Роковое наследство".
**09.00** Что? Где? Когда?
**10.30** Угадай мелодию.
**11.15** "Вместе".
**14.20** М/ф "Волшебные истории". "Остров сокровищ".
**14.40** Марафон-15.
**15.00** Звездный час.
**15.40** "Космическая полиция".
**16.05** "...До шестнадцати и старше".
**16.30** "Секретные архивы мировых войн".
**17.20** "Роковое наследство".
**18.10** Час пик.
**18.35** Угадай мелодию.
**19.00** "Человек в маске".
**19.45** "Спокойной ночи, малыши!"
**20.00** Время.
**20.40** "Полтергейст".
**21.45** "Серебряный шар".
**22.40** Х/ф "Чужая Белая и Рябой".

**РТР**

**16.00, 19.00, 22.30** Вести.
**16.35** "Чародей".
**17.05** М/ф.
**17.25** Футбол без границ.
**18.20** Национальный интерес.
**19.25** Подробности.
**19.45** "Санта-Барбара".
**20.45** L-клуб.
**21.30** Добрый вечер.
**23.00** Вовремя.
**23.10** Лестница в небо.
**23.45** Тихий дом.

**КУЛЬТУРА**

**07.30** Г.Фигейредо. "Эзоп".
**09.05** Образ жизни.
**09.35** "Звезды Мариинки".
**10.15** Художник А.Поздеев.
**11.05** Сгоревшие рукописи.- М.Булгаков.
**11.30** Градъ-город. Д/ф.
**11.45** "Мы не увидимся с тобой..." Спектакль.
**14.00** "Культура городов мира".
**14.10** Д/ф.
**15.05** Мир авиации.
**15.35** "Челленджерс".
**16.00** "Путешествие во времени".
**16.45** Киберкультура.
**17.05** "2003 год".
**17.15** Международное обозрение.
**17.45** Сокровища Петербурга.
**18.00** Лукоморье.
**18.20** "Москва". Д/ф.
**19.20** "Зажгите свечи".
**19.50** "Камо грядеши?" 4-я с.
**20.50** "Небываемое бывает".
**21.30** "Воспоминания, которые всегда со мной".
**22.15** "Звезды балета в Кремле".
**22.40** Ночной гость.
**23.20** Музыкальный экспромт.

**НТВ**

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.05** "Крутой Уокер: правосудие по-техасски".
**09.15** Маски-шоу.
**09.45** "Итого".
**10.00, 21.45** "Доктор Куин, женщина-врач".
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.20** Старый телевизор.
**12.45** Телемагазин.
**13.20** Х/ф "Моя подруга Макс" (Канада).
**15.20** "Улица Сезам".
**15.50** "Любовь и тайны Сансет Бич".
**16.40** Д/ф. "Мир вина".
**17.10** Впрок.
**17.20** Криминал.
**17.30** Футбольный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Х/ф "Принцип Ноева ковчега" (Германия).
**22.35** Сегоднячко.
**23.00** Сегодня в полночь.
**23.25** Синемания: все о кино.

**ТВ6**

**10.00** "Дина" — история победы.
**10.30** "Любишь — смотри".
**11.10** Х/ф "Танцующий на лезвии" (США).
**13.10** Знак качества.
**14.10** Х/ф "Цирк".
**16.05** "Флиппер II".
**16.35** "Обозреватель".
**17.50** "Грейс в огне IV".
**18.20, 21.25** Новости.
**18.25** Катастрофы недели.
**18.50, 19.55** Видеоклипы.
**19.00** "Вавилон 5".
**20.00** Новости дня.
**20.30** Ток-шоу "Акулы политпера".
**21.30** Х/ф "Я шагаю по Москве".

### ВТОРНИК 9 ДЕКАБРЯ

**БТ**

**07.30** Утренний коктейль.
**07.45, 17.55** "Музыкальная обойма".
**07.50** М/ф.
**08.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.15** Новости.
**08.10** Д/ф "Мой Минск".
**09.00** ТВ — школе.
**09.30, 17.45** Экономикст.
**09.40** Гости в дом.
**10.15** "Золотые ключи".
**10.55, 18.20** "Долгий путь в лабиринте". 2-я с.
**12.00** Четвертое измерение.
**12.25** Акколада.
**15.15** М/ф.
**16.05** ТВ — школе.
**16.35** "Прошлое и настоящее".
**17.00** Музыкальный антракт.
**17.10** Уроки Н.Новожиловой.
**19.25** Тема дня.
**19.40** Вертикаль.
**20.05** Музыка без границ.
**20.30** Поэтическая строка.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.50** Телевизионный Дом кино.
**22.30** Гандбол.
**24.00** Третий тайм.

**ОРТ**

**08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.10** Новости.
**08.15** "Роковое наследство".
**09.00** "Человек в маске".
**09.45** Смехопанорама.
**10.20** Домашняя библиотека.
**10.30** Угадай мелодию.
**11.15** "Вместе".
**14.20** М/ф "Остров сокровищ".
**14.55** Счастливый случай.
**15.40** "Космическая полиция".
**16.05** "...До шестнадцати и старше".
**16.30** "Секретные архивы мировых войн".
**17.20** "Роковое наследство".
**18.10** Час пик.
**18.35** Угадай мелодию.
**19.00** Тема.
**19.45** "Спокойной ночи, малыши!"
**20.00** Время.
**20.40** Футбол. Кубок УЕФА.
**22.40** "Женские истории".

**РТР**

**16.00, 19.00, 22.30** Вести.
**16.35** "Чародей".
**17.00** М/ф.
**17.25** Бесконечное путешествие.
**18.20** Национальный интерес.
**19.25** Подробности.
**19.45** "Санта-Барбара".
**20.45** Любовь с первого взгляда.
**21.30** Добрый вечер.
**23.00** Вовремя.
**23.10** У Ксюши.
**23.45** "Луи — ребенок-король". Х/ф (Франция).

**КУЛЬТУРА**

**07.00** Музыкальный экспромт.
**07.30** "Пигмалион". Спектакль.
**09.05** "Образ жизни".
**09.30** "Москва". Д/ф.
**10.30** Сокровища Петербурга.
**11.05** "Литература. Поэзия".
**11.30** "Камо грядеши?" 4 с.
**12.30** Песни О.Фельцмана.
**13.20** "Культура городов мира".
**13.40** Воспоминание о Серебряном веке.
**14.15** "Мысли о Рихтере".
**15.05** "Ноу хау".
**15.35** "Челленджерс".
**16.00** "Путешествие во времени".
**16.45** Киберкультура.
**17.05** "2003 год".
**17.10** "Русская усадьба".
**17.35** "Театральная провинция".
**18.05** Лукоморье.
**18.25** "Улица Горького". Д/ф.
**19.15** Народные умельцы.
**19.25** Программа передач.
**19.50** "Камо грядеши?" 5 с.
**20.50** "Театр одного художника".
**21.10** "Воспоминания, которые всегда со мной".
**21.55** "Утешение оперой".
**22.40** Ночной гость.
**23.20** Музыкальный экспромт.

**НТВ**

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.05** "Крутой Уокер: правосудие по-техасски".
**09.15** Дог-шоу.
**09.45** Куклы.
**10.00, 21.45** "Доктор Куин, женщина-врач".
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.20** Старый телевизор.
**12.45** Телемагазин.
**13.20** Х/ф "Мужчины всегда лгут" (Испания).
**15.20** "Улица Сезам".
**15.50** "Любовь и тайны Сансет Бич".
**16.40** Д/ф. "Мир вина".
**17.10** Впрок.
**17.20** Криминал.
**17.30** Футбольный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Х/ф "Одержимые оружием" (США).
**22.35** Сегоднячко.
**23.00** Сегодня в полночь.
**23.25** "На пути в Нагано".



**ТВ6**

**08.10** "Обоз".
**09.40, 19.00** "Вавилон 5".
**11.15** Х/ф "Это — армия" (США).
**14.10** Х/ф "Борец и клоун".
**16.05** "Флиппер II".
**17.50** "Грейс в огне IV".
**18.25** Те Кто.
**20.30** Ток-шоу "Профессия".
**21.30** Х/ф "Взломщик" (США).

### СРЕДА 10 ДЕКАБРЯ

**БТ**

**07.30** Утренний коктейль.
**07.45, 17.55** "Музыкальная обойма".
**07.50** "Степь". Киноочерк.
**08.10** Усадьба.
**08.30** М/ф.
**08.40** Туробъектив.
**09.00** ТВ — школе.
**09.30, 17.45** Экономикст.
**09.40** Мультиклуб.
**10.20** Бездельник.
**10.55, 18.20** "Долгий путь в лабиринте". 3-я с.
**12.00** Видимо-невидимо.
**15.15** Немецкий язык.
**15.35** "5 х 5".
**15.55** "Я рисую".
**16.10** "Навстречу".
**16.30** Города и люди.
**17.00** Музыкальный антракт.
**17.10** "Поющий ткацкий станок".
**19.25** Тема дня.
**19.35** Темная комната.
**20.00** "Это моя работа".
**20.25** Авто-парк.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.45** "Цептер".
**21.50** "Фотография с женщиной и кабаном". Х/ф.
**23.30** Королевская охота.

**ОРТ**

**08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.30** Новости.
**08.15** "Роковое наследство".
**09.00** Тема.
**09.45** Пока все дома.
**10.20** Домашняя библиотека.
**10.25** "Джентльмен-шоу".
**11.15** "Вместе".
**14.20** М/ф.
**14.45** "Классная компания".
**15.10** Зов джунглей.
**15.40** "Космическая полиция".
**16.05** "...До шестнадцати и старше".
**16.30** "Секретные архивы мировых войн".
**17.20** "Роковое наследство".
**18.10** Час пик.
**18.35** "Золотая лихорадка".
**19.10** Человек и закон.
**19.45** "Спокойной ночи, малыши!"
**20.00** Время.
**20.40** Х/ф "Странные мужчины Семеновой Екатерины".

**РТР**

**06.30, 10.00, 16.00, 19.00, 22.30** Вести.
**07.00, 18.00** Дежурная часть.
**07.15** Медицинский вестник.
**07.20** "Стронг" представляет.
**07.25** Бизнес-утро.
**07.30** Православный календарь.
**07.35, 18.15, 00.40** Прогноз погоды.
**07.40** Сам себе режиссер.
**08.15** Лучше не бывает.
**08.20, 18.20** Национальный интерес.
**08.55** Почтовый магазин.
**09.05** "Санта-Барбара".
**13.40** Х/ф "Изыди..."
**15.20** На заметку.
**15.30** Ваше сословие.
**16.35** "Чародей".
**17.00** М/ф.
**17.25** Игра всерьез.
**19.25** Подробности.
**19.45** "Санта-Барбара".
**20.45** Кроссворд.
**21.30** Добрый вечер.
**23.00** Вовремя.
**23.10** Лестница в небо.
**23.45** Живая коллекция.

**КУЛЬТУРА**

**07.30** "Ученики чародея". Спектакль.
**09.05** Золотая карта России.
**09.30** "История одной любви".
**10.10** "Русская усадьба".
**10.35** "Род". Г.Островский.
**11.05** "Балет Серебряного века".
**11.30** "Камо грядеши?" 5 с.
**12.30** "Имена".
**13.20** "Культура городов мира".
**13.35** "Картина". Спектакль.
**14.15** Декабрьские вечера.
**15.05** "Земля людей".
**15.35** "Челленджерс".
**16.00** "Путешествие во времени".
**16.45** Киберкультура.
**17.05** "2003 год".
**17.10** Академия спорта.
**17.30** Д/ф.
**18.00** Лукоморье.
**18.20** Об образе Владимирской Богоматери.
**19.00** "Красный космос".
**19.50** "Камо грядеши?" 6 с.
**20.50** "Кумиры".
**21.20** "Певческие бьеннале".
**22.10** "Поэзия и правда жизни".
**22.40** Ночной гость.
**23.20** Музыкальный экспромт.

**НТВ**

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.05** "Крутой Уокер: правосудие по-техасски".
**09.15** "Пойми меня".
**09.45** Кнопка-плюс.
**10.00, 21.45** "Доктор Куин, женщина-врач".
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.20** Старый телевизор.
**12.45** Телемагазин.
**13.15** "Среда".
**13.30** Х/ф "Поезд вне расписания".
**15.20** "Улица Сезам".
**15.50** "Любовь и тайны Сансет Бич".
**16.40** Д/ф. "Испания после Франко" (Испания). 1-я с.
**17.10** Впрок.
**17.20** Криминал.
**17.30** Футбольный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Х/ф "Гнев" (США).
**21.35** Футбол. Лига чемпионов.
**23.30** Сегоднячко.
**23.45** Сегодня в полночь.
**24.00** Дневник лиги чемпионов.

**ТВ6**

**08.10** Ток-шоу "Профессия".
**09.00** "Пальчики оближешь".
**09.30** Видеоклипы.
**09.40, 19.00** "Вавилон 5".
**10.30** "Любишь — смотри".
**11.10** Х/ф "Счастливой любви" (США).
**13.00, 15.30, 00.35** Знак качества.
**14.10** Х/ф "Соло для слона с оркестром", 1-я с.
**16.05** "Флиппер II".
**16.35, 18.25** Те Кто.
**17.00** Видеоклипы.
**17.50** "Грейс в огне IV".
**18.20, 21.20** Новости.
**18.50, 19.55, 21.25** Видеоклипы.
**20.00** Новости дня.
**20.30** Ток-шоу "Я сама".
**21.30** Х/ф "По прозвищу "Тигр" (США).

### ЧЕТВЕРГ 11 ДЕКАБРЯ

**БТ**

**15.15** М/ф.
**15.30** Педагогический экран.
**16.00** ТВ — школе.
**16.30** Родное слово.
**17.00** Музыкальный антракт.
**17.10** Уроки Н.Новожиловой.
**17.45** Экономикст.
**17.55** "Музыкальная обойма".
**18.20** "Три лимона для любимой". Х/ф.
**19.30** Тема дня.
**19.50** Сделано в Беларуси.
**20.05** "Галереи XX века".
**20.25** Музыкальный антракт.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.50** Телебарометр.
**22.05** Х/ф "Без свидетелей".
**23.40** Крок.
**00.20** "Супермодель Беларуси-98".

**ОРТ**

**08.15** "Роковое наследство".
**09.00** Человек и закон.
**09.35** Клуб путешественников.
**10.20** Домашняя библиотека.
**10.25** "Эти забавные животные".
**11.15** "Вместе".
**14.20** М/ф.
**14.45** "Классная компания".
**15.10** Лего-го!
**15.40** "Космическая полиция".
**16.05** "50 х 50".
**16.30** "Секретные архивы мировых войн".
**17.20** "Роковое наследство".
**18.10** Час пик.
**18.35** "Эти забавные животные.
**19.05** "Парижские тайны Эльдара Рязанова".
**19.45** "Спокойной ночи, малыши!"
**20.00** Время.
**20.40** Х/ф "Папаша из Ниццы".
**22.45** "Каскадеры".

**РТР**

**07.15** Медицинский вестник.
**07.25** Бизнес-утро.
**07.30** Православный календарь.
**07.40** Кроссворд.
**08.15** Лучше не бывает.
**08.20, 18.20** Нацинтерес.
**08.50** Торговый дом.
**08.55** Почтовый магазин.
**09.05** "Санта-Барбара".
**13.40** "Исчадие ада". Х/ф.
**15.20** На заметку.
**15.30** Золотая карта России.
**16.35** "Чародей".
**17.00** М/ф.
**17.25** "Формула 900".
**19.25** Подробности.
**19.45** "Санта-Барбара".
**20.45** Слабо?
**21.30** Добрый вечер.
**23.00** Вовремя.
**23.10** Лестница в небо.
**23.45** Кафе "Обломов".

**КУЛЬТУРА**

**07.00** Музыкальный экспромт.
**07.30** "Карманный театр".
**09.05** Золотая карта России.
**09.30** "Парадоксы истории".
**10.00** Д/ф.
**10.30** "Красный космос".
**11.05** "Дворцовая площадь".
**11.30** "Камо грядеши?" 6 с.
**12.30** С любовью к музыке.
**13.20** "Культура городов мира".
**13.25** А.Куприн. "Брегет".
**14.00** "Легенды Большого"
**15.05** Пилигрим.
**15.35** "Челленджерс".
**16.00** "Путешествие во времени".
**16.30** Вальсы из балетов.
**16.45** Киберкультура.
**17.05** "2003 год".
**17.10** Счастливчик Шолти.
**18.00** Лукоморье.
**18.20** Новое кино.
**19.00** "Красный космос".
**19.50** "Ришелье". Х/ф. 1с.
**20.45** "Поэзия и правда жизни". Часть 2-я.
**21.20** Романсы в исполнении З.Соткилавы.
**21.40** Д/ф.
**22.40** Ночной гость.
**23.20** Музыкальный экспромт.

**НТВ**

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.05** "Крутой Уокер: правосудие по-техасски".
**09.15** Перехват.
**10.00** Лучшие цирки мира.
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.20** Старый телевизор.
**13.20** "Хороший человек в Африке". Х/ф (США).
**15.20** "Улица Сезам".
**15.50** "Любовь и тайны Сансет Бич".
**16.40** Д/ф. "Испания после Франко".
**17.10** Впрок.
**17.20** Криминал.
**17.30** Хоккейный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Х/ф "Кровавый кулак: обученный убивать" (США).
**21.45** "Доктор Куин, женщина-врач".
**22.35** Сегоднячко.
**23.00** Сегодня в полночь.
**23.25** Обзор матчей лиги чемпионов.
**00.25** Фигурное катание.
**00.55** Баскетбол.
**01.10** Американский футбол.

**ТВ6**

**08.15** Ток-шоу "Мое кино".
**09.05, 17.20** Нью-Йорк.
**09.40, 19.00** "Вавилон 5".
**11.10** Х/ф "Иоганн Штраус. Мечта сбывается" (Австрия).
**13.00** Знак качества.
**14.10** "Соло для слона с оркестром", 2 с.
**15.25, 00.35** Знак качества.
**16.00** "Флиппер II".
**17.50** "Грейс в огне IV".
**18.20, 21.25** Новости.
**18.25** Те Кто.
**18.50, 19.55** Видеоклипы.
**20.00** Новости дня.
**20.30** Ток-шоу "Сделай шаг".
**21.30** Х/ф "Не может быть".

---

**НТВ плюс**

#### ПОНЕДЕЛЬНИК

**МИР КИНО**

**9.35** "Телохранители". **10.25** Драма про кота «Гарри и Тонто» (США). **12.15** Истор. драма "Леопард" (Ит-Фр). **14.50** "Страшный суд". Фант. триллер. **16.30** "Человек - бомба" (США). **18.10** "Экстрадиция". **19.05** "Гарри и Тонто". **20.55** "Сават". Вестерн с кикбоксингом (США). **22.25** "Леопард".

**НАШЕ КИНО**

**9.04, 19.15** "Петербургские тайны". **10.00** "Путь к причалу", киноповесть. **11.25** "Нас венчали не в церкви", драма. **12.50** "Ты у меня одна", мелодрама. **14.25** Новости кино. **14.35** "Осторожно - красная ртуть". **15.50** "Сибириада II". 4 с. **16.50** "История с ПИрожками" ("Совершенно серьёзно") **17.00** "Огненные барабаны",1 с. (сериал) **17.50** Новости кино. **18.00** "Небесный тихоход", комедия. **20.05** "Подранки", фильм-исповедь. **21.35** "Ка-ка-ду", драма.

**СПОРТ**

**6.00, 10.40, 14.30, 19.45, 22.45** Новости. **6.30, 14.45** Уроки. **6.45, 11.55** Аэробика. **7.10** Большой ринг. **8.25** Гандбол. ЧМ. **9.55** Футбол. Чемп. Италии. **12.30, 19.55** Тяжелая атлетика. ЧМ. **15.00** Неделя НХЛ. **15.45** Железный фактор. **16.15, 23.50** Обзор чемп. Германии по футболу. **17.15** Хоккей. "Спартак" - ЦСКА. **21.55** Футбол. Матч чемп. Англии.

#### ВТОРНИК

**МИР КИНО**

**9.35** "Экстрадиция". **10.30** Драма "Единственное развлечение в городе" (США). **12.20** "Человек-бомба" (США). **14.00** "Сават" (США). **15.30** "Однажды преступив закон" (США). **17.05** "Экстрадиция 2", 1-я с. **18.00** Прикл. боевик "Снайпер". **19.35** "Единственное развлечение в городе" (США). **21.25** "Луна над Дакотой", прикл. драма с индейцами. **22.55** "Гибрид", ужастик (США). **0.20** Новости кино.

**НАШЕ КИНО**

**9.04, 19.50** "Петербургские тайны". **10.00** "Небесный тихоход". **11.15** "Подранки". **12.45** "Ка-ка-ду". **14.40** "Закон", 2 серии, драма. **16.50, 17.50** Новости кино. **17.00** "Огненные барабаны". **18.00** "Тарас Шевченко". **20.40** "Свадебное путешествие" (Из альманаха "Не может быть"). **21.20** "Мой любимый клоун", мелодрама.

**СПОРТ**

**6.00, 11.10, 14.30, 19.45, 22.50** Новости. **6.15, 14.45** Уроки. **6.30, 11.25** Аэробика. **6.55** Железный фактор. **7.25** Футбол. Обзор чемп. Германии. **8.25** Футбол. Чемп. Англии. **10.10** Обозрение НБА. **10.40** Американский футбол. **11.50** Шахматы. **12.30, 23.05** Тяжёлая атлетика. ЧМ. **15.00** Лучшие матчи бразильского чемп. по футболу. **17.00** Чемп. Испании - обзор. **17.30** Американский футбол. **20.00** Обзор чемп. Англии по футболу. **20.55** Гандбол. ЧМ. **22.35** Дзюдо.

#### СРЕДА

**МИР КИНО**

**9.35** "Экстрадиция 2", 1 с. **10.30** "Агония и Экстаз" (США). **12.40** Вестерн "Луна над Дакотой" (США). **14.10** "Снайпер" (США). **15.45** "Гибрид" (США). **17.10** "Экстрадиция". **18.05** "Агония и Экстаз" (США). **20.15** Прикл. "Штормовые волны" (США). **21.55** "Нулевой допуск", боевик (США). **23.25** "Дочь тьмы", ужастик (США).

